


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 48 (1083) БЕЛАСТОК 28 ЛІСТАПАДА 1976 г. ЦАНА 60 гр.

**Пуцяводныя думкі**

Хто не ідзе наперад, той ідзе назад: стаячага становішча няма.

*В. Бялінскі*

Жывёла думае, што ўся яе справа жыць, а чалавек жыццё разумее толькі за магчымасць што-небудзь рабіць.

*А. Герцэн*

Той толькі варты жыцця і свабоды, хто кожны дзень ідзе за іх на бой.

*І. Гётэ*

# ПАМЯЦІ ЗАГІНУЎШЫХ САЛДАТ

7 лістапада ў Мілейчыцах ужо па традыцыі ўрачыста адзначаюць кожную гадавіну Вялікага Кастрычніка. На гэты раз з'ехалася ў Мілейчыцы ўсё наваколле. Сяляне з Рагач і Мікуліч, з Грабаркі, Нурца, Навасёлак і з многіх іншых вёсак. Дэлегацыі ад гмін і партыйных арганізацый з Сямяціч, Мельніка, Нурца, Чаромхі, Боцькаў, Кляшчэляў і Дзядковічаў. Прадстаўнікі ваяводскіх улад: сакратар ВК ПАРП — **Галіна Пятроўская-Ольчак**, віцэ-ваявода **Леапольд Рыбакевіч**, сакратар ВК ЗСЛ **Станіслаў Мінькоўскі**, камендант ВК МО палкоўнік **Сільвестар Рагалеўскі.** З Варшавы прыехаў прадстаўнік пасольства СССР старшы лейтэнант **Аляксандр Цішчэнка.** Сабраліся яны ўсе, каб разам з мясцовым насельніцтвам прадэманстраваць сваю вернасць несмяротным ідэям Вялікага Кастрычніка, каб ушанаваць памяць тых савецкіх воінаў і тутэйшых антыфашыстаў, якія зараз пакояцца ў супольных брацкіх магілах на магільніку за Мілейчыцамі.

З транспарантамі, з вянкамі і букетамі кветак, пастроеныя ў доўгую калону, ішлі мы ад сялібы гмінных улад на гэты магільнік. Вучні і настаўнікі, сяляне і рабочыя — амаль усе жыхары Мілейчыц і іх госці аб'ядналіся пачуццямі ў гэтым паходзе. Наперадзе — аркестр. Рытмічныя гукі марша супадаюць з роўным шорахам салдацкіх крокаў. Ідзе парадная рота Варшаўскай ваеннай акругі.

І гэта наводзіць на думку той далёкі час, калі на Варшаву і Берлін кіраваліся палкі Чырвонай Арміі. А шлях гэты быў не з лёгкіх. За кожны крок наперад прыходзілася плаціць жыццём байцоў. На салдацкім могільніку ў Мілейчыцах пакоіцца іх 1650. Пасля вайны мясцовыя сяляне бярэжліва пазбіралі іх астанкі з многіх палёў, дзе былі яны спешна пахаваны, і перанеслі на супольны могільнік, што знаходзіцца на ўзгорку за Мілейчыцамі. Гарцэры мясцовай школы пастаянна апякуюцца ўсімі магіламі. Відаць іх дбайныя рукі. На многіх магілах вянкі і свежыя кветкі, лампадкі і недагарэўшыя свечкі. Гэта ўжо з удзячных рук старэйшага насельніцтва Мілейчыц.



Дзякуючы ахвярнасці гэтага ж насельніцтва на салдацкім могільніку ўстаноўлены помнік у гонар тых савецкіх воінаў, марш на Берлін якіх абарваўся менавіта тут, у раёне Мілейчыц. Аграмадная рука, якая вырастае быццам з магілы, без слова апавяшчае ўсяму свету: *„Стоп! Ніколі болей вайны! Ніколі болей непатрэбных ахвяр!“*

Вызваленне Польшчы каштавала жыццё звыш 600 тысяч байцоў. А яны былі маладыя, хацелі жыць і цешыцца жыццём, хацелі вярнуцца дамоў, дзе іх яшчэ мо і дагэтуль з надзеяй чакаюць.

Вось тут, у Мілейчыцах, чытаю іх прозвішчы і імёны. Калі варожая куля абарвала іх жыццё, былі яны 20 — 25-гадовымі юнакамі. А колькі ж тут невядомых! Невядомых, бо дождж і снег змыў нацарапанае ў спешцы прозвішча. Вось у адной магіле бачу 42 невядомых салдат, у другой — 24 і так далей.

**(Працяг на стар. 4)**

---

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“

**20 год кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта ● Іван Білеўскі і другія ● З візітам дружбы на беларускай зямлі ● Літаратурная старонка ● Лосі ў Белавежскай пушчы ● З маёй званіцы (Бельск) ● З рэпарцёрскіх запісак (Чыжы) ● На спартыўнай ніве ● Весткі з Зубава, Нараўкі, Лукі, Чаромхі і інш. ● Калі спіцца мужчына без галавы, тытунь і кролікі ● Песня „A przy żniwach wojsko“.**

## ДАЛІ ІМ ІМЯ „ДУБОЧКІ“

Доўга рыхтаваліся яны да гэтага свята. 31 кастрычніка бягучага года. Не ведаю, ці сцены дубяжынскай святліцы, якая ў гэты дзень нагадвала вялікі вулей, помняць такую колькасць людзей. Зала набітая — іголкі не ўсадзіш. Сядзім, быццам у вясеннім гаі, запоўненым радасным шчабятаннем. Але гоман становіцца ўсё цішэйшым ды цішэйшым і наканец цалкавіта расплываецца. Усе паварочваюцца да сцэны, з якой, уліваючыся ў паветра перапоўненай залы, плывуць першыя ўрачыстыя словы, сказаныя дырэктарам бельскага дома культуры Сяргеем Лукашуком. Распачалося. Адзін за адным устаюць, выклікаючы прывітаннямі са сцэны, запрошаныя госці. Вось старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік, за ім намеснік куратара асветы і выхавання Уладзімір Мялешка, далей другі сакратар гміннага камітэта партыі Мар'ян Казлоўскі, прадстаўнік ваяводскага дома культуры Казімір Дэркоўскі, кіраўнік „Курпяў зялёных“ Юрый Сыруткоўскі, прадстаўнік РСВ „Прэса-кніжка-рух“ Веслаў Петух і іншыя. Залу, хваля за хваляй, заліваюць апладысменты. Кожная драбінка насычана святочнасцю і прыўзнятасцю. Нават дадзжынкі, якімі вецер кідае ў шыбіну, нічуць не нагадваюць аб асеннім суме і праміннанні, а перапрацаваўшы, звонячы па шкле, у цудоўную шчаслівую песню.

І хто думаў пяць год таму назад, што надыдзе такі ўрачысты дзень... Хто ж мог прадбачыць, якой калінай пакоіцца жыццё новананароджанага калектыву... Ці ж мала іх родзіцца і ці мала памірае недаспеўшымі? І вось прайшло пяць год. Пяць год — гэта многа і мала. Многа — калі змарнаваць, малавата — каб нечага дабіцца. А дубяжынскі калектыў дабіўся. Заваяваў ён за гэты час прызнанне і прыхільнасць не толькі на Беласточчыне, але і ў другіх ваяводствах нашай краіны. Далі шмат выступленняў, прымалі ўдзел у розных культурных мерапрыемствах, пешачы слухачоў цудоў-

**(Працяг на стар. 3)**

## Новыя вершы

* * *

*Я стану, як стэп, салёны,*
*Нібы Ледавіты,*
*Шквальны,*
*Каб толькі пачуць:*
*— Шалёны!*
*Каб толькі пачуць:*
*— Ненармальны...*

*Растаю боязі льдзіны,*
*Садзьму*
*Недаверу барханы, —*
*Каб толькі пачуць:*
*— Адзіны!*
*Каб толькі пачуць:*
*— Каханы...*

*Гатоў на любыя згубы,*
*Каб моўкнулі губы адчаю:*
*Абы не адчуць:*
*— Нялюбы...*
*Абы не пачуць:*
*— Звычайны...*

**Рыгор Барадулін**

Карэспандэнцыя з Мінска

# Гонар нацыянальнага мастацтва

Сёння ў музычным свеце яшчэ часта можна пачуць спрэчкі: ці патрэбны сучаснаму гледачу опера і балет, ці будуць яны наогул існаваць у XX стагоддзі?

Але пакуль вядуцца тэарэтычныя спрэчкі, у многіх гарадах свету гучаць несмяротныя оперныя і балетныя партытуры, нараджаюцца новыя творы мастацтва, якія нясуць людзям сапраўдную радасць. Вось так і балет „Стварэнне свету" — бясспорная ўдача тэатра — яшчэ раз даказаў як жыццездольнасць самога жанра, так і цудоўныя творчыя магчымасці трупы Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балету.



*Адажыо з балету „Стварэнне свету" А. Пятрова выконваюць народная артыстка рэспублікі Л. Бжазоўская і заслужаны артыст БССР Ю. Траян.*

Новы спектакль: балет А. Пятрова „Стварэнне свету", асн ованы на старажытнай легендзе, стаў хвалюючым сучасным спектаклем аб лёсах Планеты людзей, аб барацьбе дабра і зла, аб жыцці і смерці. І як само жыццё, так і балет прымушае людзей думаць, задае пытанні і дапамагае знайсці адказ.

Лёс тэатра вытканы з пастаянных пошукаў, эксперыментаў, паражэнняў і перамог.

Створаны ў 1933 годзе і ўвабраўшы ў сябе групу здольных выпускнікоў Мінскага музычнага тэхнікума, тэатр за гэтыя гады змог клапатліва вырасціць цэлую плеяду таленавітых артыстаў, дырыжораў, рэжысёраў, мастакоў. Усе яны імкнуцца да таго, каб кожны спектакль быў патрэбны гледачу, адпавядаў яго духоўным запросам.

У савецкай краіне опера і балет перасталі быць мастацтвам для выбраных. Залу беларускага тэатра запаўняюць шырокія працоўныя масы, якія прыходзяць сюды захапляцца прыгажосцю, пазнаваць вялікую праўду жыцця. І для аматараў музыкі тэатр — гэта не проста спектакль, ігра, а тысячакратнае па сіле адлюстраванне рэчаіснасці.

З захапленнем прымае публіка народныя музычныя драмы Мусаргскага „Барыс Гадуноў" і „Хаваншчына", оперы Чайкоўскага „Яўгеній Анегін", „Іяланта", „Пікавая дама", горача апладыруюць операм Моцарта, Бізэ, Вэрдзі, Пучыні, Даргамыжскага, Рымскага-Корсакава, а таксама балетам на музыку Чайкоўскага, Пракоф'ева, Караева, Шчадрына.



*Від на Дзяржаўны ордэна Леніна акадэмічны Вялікі Тэатр оперы і балету.*

Аднак не толькі гэтыя спектаклі акрэсліваюць „твар" тэатра. Асноўную ўвагу ўвесь творчы калектыў удзяляе творам нацыянальнага мастацтва.

Тэма народу, які змагаецца за сваё шчасце — вядучая тэма беларускіх опер і балетаў.

У канцы 1944 года на сцэне тэатральнай залы ўпершыню прагучала опера беларускага кампазітара Я. Цікоцкага „Алеся", якая стала сапраўднай аповесцю аб барацьбе народу з фашызмам. Гэтая тэма захоўвае для нас ўсё сваё жывое гучанне, яна зноў і зноў прымушае нас хвалявацца, нараджаючы пачуццё гонару за наш народ, які атрымаў сапраўды бяспрыкладную перамогу. Вось чаму і сёння зала сочыць за падзеямі оперы, за лёсам Алесі і яе сяброў, затаіўшы дыханне, адчуваючы непаўторную прыгажосць ярка нацыянальнай музыкі.

Прайшлі гады... Беларускія кампазітары стварылі нямала цікавых, гераіка-патрыятычных спектакляў, адзначаючыхся глыбокай думкай і майстэрствам. У рэпертуары тэатра гучалі оперы „Міхась Падгорны" Я. Цікоцкага і „У пушчах Палесся" А. Багатырова, „Кастусь Каліноўскі" Д. Лукаса і „Ясны рассвет" А. Туранкова, балеты „Князь-возера" В. Залатарова і „Альпійская балада" Я. Глебава. Аб мужнасці беларускага народа, яго глыбокім аптымізме, аб народных абрадах і звычаях, аб пачуццях высокай паэзіі і вясёлага гумару расказалі спектаклі тэатра: балеты „Падстаўная нявеста" і „Свет і цені" Г. Вагнера, опера Ю. Семянякі „Зорка Венера", балет Глебава „Выбранка".

У апошнія гады беларускія кампазітары нярэдка звяртаюцца да твораў вялікай літаратуры. Так, балет Г. Вагнера „Пасля балю" напісаны па аповесці Л. М. Талстога, балет Я. Глебава „Выбранка" — па матывах паэм Я. Купалы, а падзеі балету Я. Глебава „Ціль Уленшпігель" узяты з рамана Шарля дэ Костэра.

Але важна, што ў кожным з названых твораў нас чакае сустрэча з сучасным беларускім кампазітарам, з яго думамі і яго поглядамі на свет.



*У глядзельнай зале тэатра.*

Беларускі оперны тэатр у дарозе. Гледачы з удзячнасцю успамінаюць многія яго ўдачы, з нецярплівасцю чакаюць яго прэм'ер. Сярод новых прац калектыву — опера Р. Вагнера „Лаэнгрын", опера беларускага кампазітара С. Кортэса „Джардана Бруно", новая пастаноўка оперы А. Багатырова „У пушчах Палесся", балет Я. Глебава „Маленькі прынц"... Хочацца ад усёй душы пажадаць тэатру новых творчых перамог!

**І. Зубрыч**

**Фота Э. Трыгубовіча**




## Дзеці... на продаж

Маладая маці з двума маленькімі дзецьмі кінулася з балкона сваёй кватэры на ўскраіне Афін. Усе трое знаходзяцца ў цяжкім стане... Юныя муж і жонка задушылі сваё нованароджанае дзіця... 73-гадовая павівальная бабка Фёкла Сімеанідзі толькі ў гэтым годзе прадала бяздзетным бацькам пяцярых дзяцей па 45 тысяч драхм „за душу" (кошт старога матацыкла)...

Гэтыя паведамленні апошняга часу ўзрушылі грамадскасць Грэцыі. Газеты на першых палосах друкуюць фатаграфіі злачынцаў, выносяць у загалоўкі патрабаванні асудзіць вінаватых, абараніць дзяцей, якія становяцца ахвярамі замучаных галечай бацькоў ці брудных дзялкоў-спекулянтаў.

Гандаль дзецьмі ў Грэцыі набывае пагражальныя маштабы. У ходзе судовага працэсу над Сімеанідзі і чатырмае саўдзельнікамі раскрыліся страшныя факты. У даведзеных да адчаю бацькоў дзяцей купляюць грэчаскія багацеі, якія прыкрываюць куплю-продаж фіктыўнымі дакументамі аб усынаўленні. Гэтыя дакументы за 50-100 тысяч драхм ім выдаюць акушэры тыпу Сімеанідзі. Многія маленькія грэкі, прададзеныя ў рабства, трапляюць за граніцу, часцей за ўсё ў ЗША. Амерыканскае Таварыства абароны дзяцей заявіла, што большасць купленых дзяцей увозіцца ў Штаты з Грэцыі і Паўднёвай Карэі. У пасляваенныя гады ў Грэцыі дзейнічала 87 агенцтваў па „ўсынаўленню", якія толькі з 1953 па 1958 год прадалі амерыканцам 1200 дзяцей. Злачынцам удалося замесці сляды і ніхто канкрэтна не быў прыцягнуты да адказнасці.

І вось цяперашняе следства па справе аб сучасным гандлі рабамі. Раскрываюцца ўсё новыя і новыя факты. Яніс Караяніс, які жыве на востраве Эўбея, прадаў дачку за 12 тысяч драхм. Паводле яго слоў, толькі ў Халкідзе — самым вялікім горадзе вострава — прададзены дзве тысячы дзяцей. На следстве Караяніс заявіў: „Саджайце тых, хто робіць гэта дзеля ўзбагачэння. А мы калі і прадаём, то толькі з-за беднасці".

Чаму працвітае рынак „чалавечага тавару" ў Грэцыі? Друк краіны спрабуе знайсці адказ на гэта пытанне ў адсутнасці строгага закону, які забараняў бы злачынную куплю-продаж, а таксама

(Працяг на стар. 4)




**Sobota 27.XI.** 6.00 RTV Szk. Śred. Mat. 6.30 Biolog. 9.00 Dla szkół (kl. VIII) Nauka o czł. Proces oddychania. 11.30 Miłość szesnastolatków — film fab. 13.40 Tech. Rol. J. pol. 14.10 Chem. 14.40 Red. Szk. zap. 14.50 Pr. dnia. 14.55 Radzimy rolnikom. 15.05 Dla dzieci. 15.35 Dziennik. 15.45 Obiektyw. 16.05 Fakty, Op., Hip. 16.35 Kołko i krzyżyk. 16.55 Śpiewaj razem z nami. 17.40 Nad jeziorem — film fab. radz. cz. I. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Do widzenia, Charlie — film fab. USA. 22.40 Dziennik. 22.55 Teatr Komedii: W. Rapacki — Wesoły wspólnik.

—

**Niedziela 28.XI.** 6.55 Tech. Rol. J. pol. 7.25 Chem. 7.55 Nasze spotkania. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Sport. 8.40 Sport dla wszyst. 8.55 Pr. dnia. 9.00 TELERANEK. 10.20 Antena. 10.45 Wielkie bitwy historii — film dok. fr. 11.45 Dziennik. 12.05 Radar. 12.20 Rolnicze Rozmowy. 12.40 Nie taki diabeł straszny odc. XII. 13.45 Dla dzieci. 14.45 Klub Sześciu Kont. 15.20 Los. Duż. Lot. 15.35 Między nami jaskiniowcami — film anim. 16.00 Nad jeziorem — film fab. radz. cz. II. 17.20 Sport. 18.00 Tele-Echo. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.40 Bajka dla dor. 20.50 Szaleństwo — film ser. ang. (Wojna i pokój). 21.40 Co kto lubi. 22.30 Sport.

—

**Poniedziałek 29.XI.** 12.45 RTV Szk. Śred. J. pol. 13.25 Fiz. 15.50 NURT. 16.20 Pr. dnia. 16.25 Dziennik. 16.35 Obiektyw. 16.55 Dla dzieci. 17.35 Siedemnaście mgnień wiosny — film ser. radz. 18.50 Przem. Amb. Jugosławii. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Teatr TV: S. O'Cassy — Junona i paw. 22.10 Pożegnanie ze sceną. 22.35 Dziennik.

—

**Wtorek 30.XI.** 6.00 RTV Szk. Śred. J. pol. 6.30 Fiz. 10.00 Dla szkół (kl. I—III) Czerw., żółte, ziel. 10.10 Szaleństwo — film ser. ang. (Wojna i pokój). 12.00 Dla szkół (kl. VIII) Hist. Nauka i kult. w II Rzeczposp. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Hod. zwierz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Studio Mł. 17.50 Interstudio. 18.30 R. Kłosowski — Szwejk — rep. film. 18.50 Radzimy Rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Wielka kariera — film fab. ang. 22.15 Śpiewa N. Czarmińska. 22.35 Dziennik.

—

**Środa 1.XII.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Hod. zwierz. 10.00 Dla szkół (kl. VII) Fiz. Grawitacja i loty kos. 10.30 Wielka kariera — film fab. ang. 12.00 Dla szkół (kl. VII—VIII) Wych. plast. Plakat. 12.45 Tech. Rol. Chem. 13.25 Upr. rośl. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Los. Mał. Lot. 17.55 Bar na Stawach. — rep. 18.25 Lekt. Pegaza. 18.35 W starym kinie: Komicy niemego ekranu. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Filmoteka Arcydzieł: Marty — film fab. USA. 22.15 Twarze Teatru — WOJCIECH PSZONIAK. 23.00 Dziennik.

—

**Czwarek 2.XII.** 6.00 Tech. Rol. Chem. 6.30 Upr. rośl. 9.00 Dla szkół (kl. VI) Hist. Górnictwo i hut. 9.30 Marty — film fab. USA. 11.05 Dla szkół (kl. VII—VIII) J. pol. Radio. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Mech. rol. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z brat. 18.00 Poligon. 18.20 Konsylium cz. I. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 07 zgłoś się — film ser. pol. odc. II. 21.45 Pegaz. 22.30 Konsylium cz. II. 22.45 Dziennik.

—

**Piątek 3.XII.** 6.00 Tech. Rol. Fiz. 6.30 Mech. rol. 9.00 Dla najmł. (kl. I—III) Barburkowe święto. 10.00 Dla szkół (kl. VI) Geogr. Kolejką przez Bieszczady. 11.05 (kl. VII) Wych. ob. PZPR w zakładzie prod. 11.35 07 zgłoś się — film ser. pol. odc. II. 12.45 RTV Szk. Śred. Mat. 13.25 Biolog. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Dla mł. Skrzydła. 18.00 Inf. Wyd. 18.10 Tajemnica mórz — film dok. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Z najlepszymi życzeniami dla górników. 22.10 Dziennik. 22.25 Przedmałżeńskie przeboje — film fab. CSRS.




**Piątek 26.XI** — 8.15 Film fab. 10.00 Koncert. 17.05 Nasza biografia. Rok 1920. 18.05 Spektakl TV. 19.30 Wieczór aut. komp. A. Nowikowa.
**Sobota 27.XI** — 12.00 Hokej. CSKA-Spartak. 14.15 Film fab. 17.15 Śpiewa P. Lisicjan. 17.50 Film fab. 20.35 Piosenka—76.
**Niedziela 28.XI** — 11.30 Film fab. 16.20 Klub film. 17.20 Film fab.




**Białowieża** Minuta milczenia — radz. 30.XI — 1.XII. Zagłada Japonii — jap. 2—3.XII. Bilans kwartalny — pol. 4—5.XII.
**Bielsk Podl.** Czterej muszkieterowie — panam. 1—3.XII. Smuga cienia — pol. 4—5.XII.
**Czeremcha** Yuriko moja miłość — radz. 30.XI —1.XII.
**Czyże** Jesień debiutantów — rum. Anna i komandor — radz. 1—5.XII.
**Dubicze Cerkiewne** Gdzie jest jubilat — węg. Deps — jug. 1—5.XII.
**Gródek** Zawiłości uczuć — pol. 4—5.XII.
**Hajnówka** Zdolny do wszystkiego — radz. 29 —30.XII.
**Kleszczele** Rezydent wywiadu — radz. 30.XI—1.XII. Obecność — buł. 2—3.XII. Nieśmiertelni — rum. 4—5.XII.
**Michałowo** Burza nad Azją — radz. 30.XI—1.XII. Czerwone i białe — pol. 2—3.XII. Rodzinny gang — wł. 4—5. XII.
**Mielnik** Taka była Oklahoma — USA 1.XII. Skazany — pol. 4—5.XII.
**Milejczyce** Gracz — radz. 30.XI—1.XII. W środku lata — pol. 2—3.XII. Kangur — węg. 4—5.XII.
**Narew** Znikąd do nikąd — pol. Podróż — wł. 1—5.XII.
**Narewka** Iwan Kondarew — buł. Zdradzieckie gry miłosne — czes. 1—5.XII.
**Nurzec** Chewsburska ballada — radz. 30.XI—1.XII. Na niebie i na ziemi — pol. 2—3.XII. Ostatni skok gangu Olsena — duń. 4—5.XII
**Orla** Był sobie glina — fr. Julia, Julka, Juleczka — NRD 1—5.XII.
**Rajsk** Pięć łatwych utworów — USA. Kazimierz Wielki — pol. 1—5.XII.



B.Z.Graf. Zam. 2768 F-4

(Працяг са стар. 1)

## Далі ім імя „Дубочкі“

ными гукамі беларускай народнай песні. А адзін з членаў, вядомы саліст Аляксандр Раманюк, у бягучым годзе прымаў удзел у цэнтральным конкурсе на савецкую песню. Пяць год упартай працы паставілі трынаццаціасабовы песенны калектыў з Дубяжына на высокае месца.

Пасля кароткага „падарожжа“ ў мінулае вяртаемся ў сённяшнюю атмасферу цеплыні і гасціннасці. На сцэне пачуліся пералівістыя галасы гармоніка. Гэта Сцяпан Копа, які прыехаў сюды з гарадоцкім калектывам, падае мелодыю песні. Спяваюць дзяўчаты з Гарадка. Песня ўліваецца проста ў сэрца. Перад вачыма ўстае ўсё роднае — поле, луг, запыленая вясковая вуліца... І, здаецца, не сядзіш, а плывеш, зліўшыся з усім тым, што так блізкае сэрцу. І так бы плыў ды плыў. Але прагучэў развітальны куплет. Зноў вяртанне. Аднак на гэты раз яно зусім іншае. Набліжаемся да самага ўрачыстага ў гэтым вечары. Яшчэ хвіліна — і калектыў з Дубяжына атрымае сваё імя. Вось займаюць яны месца на сцэне. У зале цішыня. Усе ўважліва глядзяць на сакратара гміннага камітэта партыі ў



Бельску Уладзіміра Бручко, які прыступіў да ўручэння кумам: Галене Мялешка і Міхасю Чаламею акта надання імя калектыву. Ад гэтай хвіліны яны „Дубочкі“. Пасыпаліся пажаданні, пачалі ўручаць дыпломы ды грашовыя ўзнагароды. Дыпломы атрымаў не толькі калектыў як цэласць, але і паасобныя члены, а дакладней кіраўнік Пятро Нявінскі, якому былі ўручаны два — адзін ад Ваяводскага дома культуры ў Беластоку, другі ад Бельскага дома культуры, і Аляксандр Раманюк ад начальніка горада Бельска Яна Садоўскага.

Зноў загрымела песня. Гэта „Дубочкі“ сваімі цудоўнымі галасамі дзякавалі ўсім прыбыўшым, закрываючы адначасова афіцыяльную частку праграмы. На вокны асела асенняя ноч. Позна. Але ўрачыстасці яшчэ не канец. „Дубочкі“ і слухаць не хочуць аб тым, што госці збіраюцца дахаты. Хто і дзе бачыў хрысціны без пачастунку? Яны ж так усё падрыхтоўвалі! Распачалася супольная вячэра. Тосты, песні, жарты — як на хрысцінах. А каб было гэта поўнасцю ды згодна з народным звычаем, загучэла ўсім знаёмая песня, напамінаючая аб традыцыйнай „кашы“. Доўга яшчэ чуліся песні ды выстукванне ног у танцы, але нам ужо час развітвацца, жадаючы „Дубочкам“, каб ператварыліся ў будучыні ў магутныя дубы-волаты.

**М. Шаховіч**

### МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

**„АЎТАСАФАРЫ“**

Так называецца заапарк, размешчаны у трыццаці кіламетрах ад Вены. Пад адкрытым небам на вялікай тэрыторыі свабодна разгульваюць ільвы, тыгры, насарогі, сланы, жырафы і многія іншыя жывёліны, якіх у заапарку звычайна трымаюць у клетках або вальерах. Затое наведвальнікі „закрытыя“ ў аўтамабілях. Ільвы грэюцца на сонцы пасярэдзіне дарогі, жырафы мірна нахіляюць галовы, заглядаючы ў вокны турысцкіх аўтобусаў, малпы выпрошваюць ласункі, скачуць прама на капоты... Праўда, зоны, у якіх жывуць драпежнікі, агароджаны высокімі сеткавымі платамі. Наведвальнікам сафары забараняецца выходзіць з аўтамашын і адкрываць вокны, сігналіць. Рухацца можна толькі на скарасці не больш чым пяць кіламетраў у гадзіну. На тэрыторыі пастаянна курсіруе дзяжурная аўтамашына, афарбаваная пад зебру.

## КРЫВАЯ ДАРОГА

Здарылася гэта ў першыя дні вайны.

Пры адступленні савецкіх войск цераз маю вёску з ночы засталася на дарозе машына з трохтоннай цыстэрнай. Чаму яе кінулі салдаты, ніхто не ведаў. Мы толькі ўбачылі, што пад машынай ляжыць вялізная аўчарка і нікога не падпускае да цыстэрны. Праходзіў час, сабака ляжаў пад прыступкай і ўсё гыркаў.

З першых дзён вайны стала адразу дэфіцытнай нафта. Цыстэрна да сябе вабіла, але ж як ты да яе падступішся?

— Цюцька, цю-уцька! — ласкава ўгаворваў аўчарку дзядзька Салвесь ды стараўся заглянуць ёй у вочы, прысеўшы зводдаль на кукішкі. — Ну чаго ты, дурань, так злуеш на нас, столькі ж дабра халерным немцам можа дастацца, хай лепш яго свае лю-удзі разбяруць!

Але сабака не падымаў насцярожаных вачэй, і ніякія ўгаворы на яго не дзейнічалі. Мужчыны падсылалі дзяцей з мясам, сабака не браў ежы і ў іх.

— От, бадзяга, які службісты — бы іншы чалавек! — са скупой пашанай у голасе, ківаючы галовамі, сказалі мужыкі ды пакінулі на нейкі час сабаку ў спакоі. — Паспрабуем падысці да яго, калі аслабне!..

Аднак людзям патрэбна была дарога. Каб вернага вартаўніка лішні раз не трывожыць, мужчыны сталі машыну аб'язджаць і абыходзіць Міхалкавым грудам ды праз нейкі час зрабілі сабе дарогу другую.

Аднойчы ішоў нямецкі салдат з сумкай яек. З-пад цыстэрны ледзь узняўся на пярэднія ногі высахлы, з узлахмачанай поўсцю звер, асcкаліўся ды стаў салдата чакаць. Фашыст машыну абыходзіць паленаваўся. Ён асцярожна паставіў яйкі на зямлю, зняў аўтамат ды выпусціў у сабаку чаргу з цэлага ражка.

Вечарам нашыя мужчыны выкапалі яму ды аўчарку пахавалі, а дзядзька Салвесь паклаў на копчык завадную ручку ад машыны.

З таго часу мінула тры з палавінай дзесяцігоддзі. У маёй вёсцы людзі могуць успомніць многа гераічных і страшных гісторый ваеннага часу. Ды кожны стары і малы табе раскажа, чаму за вёскай крывая дарога.

**Аляксей Карпюк**

### АД РОДНЫХ НІЎ

## ГОРАД

*Выхваляют усе горад,*
*Наракают на сяло.*
*Хто здаровы ест і молад,*
*Таму ўсюды весяло.*

*Каб даў рады, час ад часу*
*Там і там мог бы пабыць.*
*Усюды меў бы амбарасу,*
*Як схацеў бы ляпей жыць.*

*Не стаіт час і не дрэмле,*
*Усюды трэба працаваць.*
*Крату добра тачыць землю,*
*Арлу ў воблакі лятаць.*

*Чы у горадзе, чы ў вёсцы,*
*Ўсюды будзеш гараваць,*
*Як рабіць будзеш па-трошцы,*
*А шчыранька — прапіваць.*

**Фёдар Хлябіч**
Рыбакі

**СПЯВАЙЦЕ З НАМІ!**

## БЕЛАРУСАЧКА

**Словы А. Ставера**
**Музыка А. Хлімановіча**

*Я гляджу на тваe кучмы русыя,*
*Не магу наглядзецца ніяк.*
*Беларусачка, беларусачка,*
*Дарагая сяброўка мая.*

*Хутка зноў я з табою расстануся,*
*Хутка зноў застануся адзін.*
*Беларусачка, беларусачка,*
*Ты са мной развітацца прыйдзі.*

*У краях незнаёмых, нязведаных*
*Буду ў радасці я ці ў журбе.*
*Беларусачка, беларусачка,*
*Не забуду ніколі цябе.*

*Я вярнуся к табе, сінявокая,*
*Калі ў зелень апранецца май.*
*Беларусачка, беларусачка,*
*Ты хоць зрэдку мяне ўспамінай.*

*Я гляджу на тваe кучмы русыя,*
*Не магу наглядзецца ніяк.*
*Беларусачка, беларусачка,*
*Дарагая сяброўка мая.*




## Яе найцяжэйшыя і найпрыгажэйшыя дні

Хоць Ірына Селівонюк працуе ў чатырохкласнай школе ў Гародчыне гм. Нарва толькі ад верасня бягучага года і на яе плячах ляжыць і навучанне і кіраўніцтва гэтай школай з адным настаўнікам, усё ж яна адчувае сябе тут вельмі добра. У гэтым уменні справіцца ў любой сітуацыі сказваецца багаты жыццёвы і працоўны вопыт. Адразу пасля Гайнаўскага беларускага ліцэя яна пайшла настаўнічаць у Хоматаўцы, затым працавала ў Курашаве і ў Тыневічах Вялікіх, разам ужо 13 год. Але навесну гэтага года арганізацыйны ўзровень школы ў Тыневічах панізіўся з васьмі класаў да чатырох, і І. Селівонюк перайшла да працы з дваццацівасьміасабовай вучнёўскай грамадкай у Гародчыне.

— Пытаеце пра мой найцяжэйшы дзень? — задумваецца яна. — Гэта бадай было тады, калі я паступала на завочнае аддзяленне Настаўніцкай студыі ў Беластоку, на чацвёртым годзе майго настаўнічання. У аддзеле асветы ў Гайнаўцы мне аб'явілі: або я зараз жа пачну завочна вучыцца або мушу пакінуць працу ў асвеце. Што ж, выбару не было, бо я вельмі палюбіла працу ў школе. Праз некалькі дзён ужо стаяла пад дзвярыма прыёмнай экзаменацыйнай камісіі факультэта гісторыі завочнага аддзялення настаўніцкай студыі ў Беластоку і трэслася: кандыдатаў было шмат, і я баялася, што мяне не прымуць. Хоць на падрыхтоўку да экзамена ў мяне не было замнога часу, на ўсе пытанні я адказала добра, нават вельмі добра. І пад канец гэтага найцяжэйшага ў маім жыцці дня мяне агарнуў аптымізм і не без падстаў — праз некаторы час я ўжо была студэнткай.

І тут неабходна дадаць — вельмі саліднай і працавітай студэнткай. На працягу 2-х год яна рэгулярна ездзіла на заняткі, тэрмінова і паспяхова здавала экзамены. Дыпломную працу „Славянскія дзяржавы ў X-XI стагоддзях“ абараніла выдатна.



— І тады іменна настаў мой найпрыгажэйшы дзень, — кажа яна. — Дыпломы аб заканчэнні СН-а ўручаў нам кіраўнік нашага аддзялення др Ю. Кавальчык. Не было ні прыёму, ні балю, але гэта быў для мяне самы светлы, самы радасны дзень. Праўду кажучы, вельмі хацелася вучыцца далей, але дома ў мяне два сыны-дашкольнікі і муж. Словам, адны мужчыны, значыць, для мяне, жанчыны, работы хоць адбаўляй. Аднак я рук не апусціла: пачала вучыцца ў Настаўніцкім радыё-тэлевізійным універсітэце, або інакш кажучы — НУРЦ-е. Выбрала зусім іншы напрамак, а іменна: матэматыку. І, ведаеце, адчуваю сябе нядрэнна, вось ужо займаюся на трэцім курсе і ў гэтым школьным годзе буду прыступаць да выпускных экзаменаў. Заняткі ў НУРЦ-е далі мне вельмі многа: цяпер я валодаю грунтоўнымі ведамі па матэматыцы і магу на адпаведным узроўні весці ўрокі ў школе згодна з патрабаваннямі новай праграмы. Больш таго, матэматыка захапіла мяне зусім не менш, чым гісторыя. І я з нецярплівасцю і хваляваннем чакаю кожнай чарговай перадачы па тэлевізару па курсу матэматыкі, аналізую вучэбны матэрыял, правяраю яго практычна на ўроках у школе. Проста без рэшты акунулася я ў гэтыя лікі, вывады, паняцці, тэарэмы...

Але не толькі гісторыяй і матэматыкай захапляецца І. Селівонюк. З не меншай любоўю, чым гэтыя прадметы, яна вядзе і заняткі па роднай беларускай мове. Праводзіць іх вельмі цікава і прадумана, патрапіць заахвоціць да навукі. Усе дзеці ў гародчынскай школе, за выключэннем аднаго вучня, наведваюць урокі роднай мовы, старанна рыхтуюцца да кожнага занятку, любяць і шануюць гэты прадмет.

**М. Гайдук**
Фота аўтара

# ВАЎКАЛАК І ГАРЭЛКА

**(КАЗКА)**

Кажуць, што ў даўнія часы ў нашых баках ведзьмы ўсялякія вадзіліся, і ад іх то людзям дабра не было.

Вось аднойчы абоз сольнікаў-чумакоў у далёкі Кракаў за соллю пададаўся. Сталі яны якраз на папас, валоў пасвіцца пусцілі, а самі на вазах адпачыць прылеглі. І здарылася так, што да аднаго, маладога ды статнага, сольніка падышла нейкая старая баба і давай яго прасіць: „Вазьмі мяне, чумачэньку, з сабою ў Кракаў. Вазьмі, золатца, на свой воз. Вазьмі, сонейка, не пашкадуеш...“ Сольнік жа глянуў на старую, паморшчаную ды гарбатую бабу і кажа: „А пашто ты мне здалася, ведзьма такая, а цюга ад мяне!..“ і кісь бічом па ведзьмавым гарбе. Узлавалася тая не на жарт і гаворыць: „Пачакай жа, чумачышча, пашкадуеш ты свайго ўчынку, ой, яшчэ як пашкадуеш! Будуць і цябе цюгаць ды бічамі хлёстаць...“ Сказала так ды пайшла сабе гасцінцам.

Калі валы напасліся, пачалі сольнікі іх у ярмо запрагаць. Саскочыў і наш сольнік з воза, але на зямлю не на дзве ногі стаў, а нагамі і рукамі на мураву абапёрся. Глядзіць; а гэта ўжо не рукі і ногі, а воўчыя лапы. Кінуўся ён да сваіх валоў, а тыя фыркнулі ды да яго з рагамі. Азіраецца: а тут яго сябры-сольнікі з бічамі ды каламі бягуць і крычаць: „А цюга! А цюга! А цюга!“. Хацеў ён азвацца да іх, ды горла нешта сціснула і замест чалавечай мовы разлятлося дзікае воўчае выццё. Дапалі да яго сольнікі ды давай бічамі хлёстаць і каламі валіць, ледзь ён жывым адтуль вырваўся. Ускочыў у гушчавіну, прысеў адсапчыся і задумаўся: „Значыць, я не інакш ваўкалакам стаў!..“ І тут ён заплакаў горка-горка, а з пашчы ў яго вырваўся не енк чалавечы, а нейкі візг звярыны.

І раптам чуе: „Не бядуй, воўча, ты тут не адзін“. Азіраецца ваўкалак, а каля яго іншы воўк сядзіць ды раіць: „Хутка навучышся воўчаму жыццю. Калі ж ужо надта есці табе захочацца, тады ты памаліся. А ваўкі моляцца прысеўшы ды склаўшы галаў на пярэдніх лапах і сумнае выццё завёўшы. Маліцца ж трэба доўга-доўга, а памаліўшыся смела бегчы ў той бок, дзе першы голас пачуецца. Гэты голас і ёсць твая спажыва“. Яшчэ тое-сёе параіў воўк ваўкалаку, развітаўся з ім ды кажа: „Калі будзеш у вялікай патрэбе, брахні тры разы па-сабачаму, я прыду табе з дапамогай“ і скрыўся ў пушчы.

Падрыпаў наш ваўкалак у зараснікі і стаў жыць па-воўчы: то зайца ўпалюе, то казулю задушыць і так перабіваецца з голаду ды на прогаладзь. Але ж аднойчы доўга-доўга нічога на зуб не трапляла і ўздумалася яму памаліцца. Прысеў ён, паклаў галаў на пярэднія лапы і завёў такую жаласную малітву, што ўсё жывое ў пушчы ажно абмярцвела ад жудасці. Спыніў малітву і чуе: гусі недзе адзываюцца. Ён — скок туды ды бачыць: рэчка, а за ёю на беразе чарада тлустых гусей сядзіць. Прысеў ваўкалак на беразе ды бядуе: „Не ластану я іх, бо плаваць не ўмею“. І прыгадаўся яму той воўк-прыяцель. Брахнуў ваўкалак тры разы па-сабачы і тут як ні бач той — тырк яму галавой у плечы, хлюпнуўся ваўкалак з усяго размаху ў ваду ды паплыў проста на гусей. І паснедаў, і паабедаў, і павячэраў ён тады на славу!

Прайшло колькі часу, і зноў давялося яму маліцца. Пасля малітвы пачуў ён: авечкі бэчаць! Выбягае з пушчы ды бачыць: вялікае стада авечак пасецца, а пры іх пастух з вялікай пугаю. Як заўважыў ваўкалак пугу, дык і бараніны яму адхацелася і знячэўку зноў брахнуў ён тры разы па-сабачаму. Бачыць: выбягае з пушчы той воўк, яго прыяцель, ды проста ў сярэдзіну авечага гурта ўбіваецца. Пастух да яго з бічом кінуўся, але аніяк цераз згрудзаныя авечкі дастацца не можа. Схапіў воўк самую тлустую авечку за вуха ды павёў яе са стада. Вывеў яе ў поле і, пакуль пастух паспеў надбегчы, пусціў яе, а сам падкуліў хвост ды ў пушчу. Авечка ж думала, што гэта яе сяброўка — прэ за ім, аж пыл курыць. Так і прыбегла яна ў пушчу, а там воўк з ваўкалакам некалькі дзён добра сабе пабалявалі.

Так вось і жыў той ваўкалак колькі часу. То там, то сям нейкую здабычу прыдбае. Аж нарэшце прыблукаў ён і ў свае родныя мясціны. Позняя во-

(Працяг са стар. 1)

## Памяці загінуўшых салдат

Іх усіх у гэты святочны дзень, у гадавіну Вялікага Кастрычніка, палкоўнік **Веслаў Капчынскі**, сын палка, які распачаў свой баявы шлях 17-гадовым юнаком, прызываў да ўрачыстай пераклічкі.

**— Загінулі на полю славы!**

Салдат Чырвонай Арміі, салдат рэвалюцыі! Імя тваё невядомае, але памяць вечна жывая. Яна захавалася ў нашых сэрцах, у сэрцах ветэранаў, якім пашчаслівілася перажыць вайну. Вось адзін з іх — **Мікалай Турык** з вёскі Навасёлкі. Грудзі ў медалях і ордэнах. Ваяваў ён ад 1941 да 1945 года. Двойчы быў паранены. Адзін раз ледзь не згарэў у танку. Менавіта яму даверана ганаровая справа: **адкрыць новы помнік.** Спадарожнічалі яму гарцэры мілейчыцкай школы.

Не менш заслужыліся ў час вайны **Мікалай Абрамовіч** з Мілейчыц, за якім баявы шлях ад Адэсы да Берліна, і **Юльян Сопюк** з вёскі Сабятына, а таксама **Антон Казімерчук** з Мілейчыц, якія служылі ў Войску Польскім. Яны, калі аркестр іграў гімны Польшчы і Савецкага Саюза, калі салдаты вінтовачнымі залпамі тройчы давалі салют загінуўшым, застывалі на смірна, каб хвілінай маўчання ўшанаваць памяць сваіх таварышаў.

А пасля — кветкі, кветкі і кветкі. Ад рабочых калектываў, ад устаноў і прадпрыемстваў, ад добразычлівых людзей.

Так дзень 7 лістапада, дзень 59-ай гадавіны Вялікага Кастрычніка прайшоў у Мілейчыцах.

**Віктар Рудчык**
Фота З. Лянкевіча

(Працяг са стар. 2)

спасылаецца на заканадаўства, якое ўскладняе ўсынаўленне ў Грэцыі. Некаторыя адвакаты пярэчаць: не, цяпер заканадаўства стала больш гібкім. Так, напрыклад, мінімальны ўзрост людзей, якія жадаюць усынавіць дзіця, зніжан з 50 да 30 гадоў. Але ўсе гэтыя дыскусіі вядуцца ў асноўным для таго, каб адцягнуць увагу грамадскасці ад сур'ёзнай сацыяльнай праблемы.

Уплывовы грэчаскі штотыднёвік „Тахідромас“, каменціруючы факты, якія раскрыліся на следстве, пісаў: „Безу-

## Дзеці на продаж

моўна, 50 тысяч драхм, якія бацькі атрымліваюць за прададзенае дзіця, сума невялікая, але і яна выручае людзей, што жывуць у галечы. Бо адважваюцца на гэты крок толькі прадстаўнікі бяднейшых слаёў насельніцтва, бацькі і маці мнагадзетных сем'яў. Яны разумеюць, што не змогуць пракарміць, выгадаваць сваіх дзяцей, даць ім адукацыю. „Няхай наша дзіця не ведае беднасці“, — думаюць яны, прадаючы яго багатым. Карэнні гэтай з'явы — у невырашальных сацыяльных супярэчнасцях нашага грамадства, у эканамічнай няроўнасці, і толькі ліквідацыя гэтых з'яў вырашыць праблему“.

**І. Сяргеева**




*У гандлёвым павільёне і спажывецкай краме № 1 у Мілейчыцах працуюць дзве маладыя прадаўшчыцы, якія апрача зласлівага варчання і скрогату зубамі даюць пакупнікам такую характарыстыку, што аж неба моршчыцца ад сораму.* *(мш)*

*ГАРАДСКІЯ ЗАРЫСОЎКІ*



*Новы Беласток. Магазін „Юбілейны“.*

**Фота Я. Цялушэцкага**

*ДАРОЖНЫЯ ПАРТРЭТЫ*



*Наймалодшая ўдзельніца сёлетніх дажынак у Боцьках.*

**Фота Я. Цялушэцкага**




## НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

**АЛЬБЕРТ ПАЎЛОВІЧ — ЧАСТКА XXII**

**Заканчэнне.** Засталося яшчэ некалькі гумарыстычных твораў, у якіх выступае камізм сітуацыйны, камізм слоўны, камізм характараў. Некаторыя з гэтых твораў разгледзім.

З сітуацыйным камізмам маем дачыненне ў вершы „На начлезе“. Аўтар апавядае ў гэтым творы аб двух братах, якія пагналі на начлег пасвіць коней. Адзін з братоў улёгся спаць, другі злавіў нейкую жывёліну, спёк яе і пачаў есці, перакананы, што есць рака. Прачынаецца брат і выясняе, што гэта не рак, а рапуха. У вершы выступаюць сцвярджэнні, якія сведчаць аб досыць слабой арыентацыі пісьменніка ў той галіне, аб якой піша. Аўтар сцвярджае, што рапуха скакала па балоце. Рапуха, як вядома, у процілегласць звычайнай жабе не скача, а поўзае.

Фальшывіць аўтар і тады, калі сцвярджае, што вясковы хлапец не адрозніў рака ад рапухі. Не даем веры пісьменніку таксама тады, калі ён гаворыць, што пастух, даведаўшыся ад брата аб тым, што есць не рака, а рапуху, заяўляе:

„Чорт з ёю — кончыў ногі, кончу ўжо і бруха“. Маем тут дачыненне з паэтычнай фальшыўкай. Аўтар апрануў у вершаваную вопратку недарэчлівы анекдот аб бязглуздасці вясковага хлопца.

Сітуацыйны камізм характэрны таксама для верша „З кірмашу“. Тут зноў маем дачыненне з апрацоўкай смешлівай гісторыі. Селянін падвозіць з кірмашу купца. У дарозе пужае яго разбойнікамі. Купец залазіць у мяшок, які селянін завязвае. Крыху пазней селянін інсцэнізуе напад на сябе бандыта. Змененым голасам ад імя фікцыйнага бандыта вядзе з самім сабой размову. Б'е пры гэтым пугай па мяшку. Купец, удаючы бітае шкло, пачынае дзынькаць. Калі ўсё скончылася, купец вельмі ўдзячны селяніну за „дапамогу“. Частуе яго гарэлкай і дае яму рубля.

Зразумела, што маем тут дачыненне з фікцыйнай гісторыяй і з досыць упрошчаным тыпам гумару.

Слоўны гумар выступае ў вершы „Адказ“. Селянін, заняты сваімі думкамі аб ураджаі, безупынна лічыць, колькі ў яго ёсць навозу і колькі яму вазоў забракне. Калі сын яму перашкаджае ў думках аб навозе, селянін крычыць: „Адкасніся! У мяне сёння гной адзін у галаве“. Зразумела, што сказанае досыць цяжка залічыць да элегантнага гумару, аднак словы селяніна заключаюць у сабе прыкметы слоўнага камізму.

Камізм характару праяўляецца ў вершы „Махорка“. Аўтар высмейвае ў творы скупасць на прыкладзе двух сватоў — Міканора і Кандрата. Міканор прыехаў да Кандрата ў госці. Скупы Кандрат не запрашае госця ў хату, трымае яго на панадворку, безупынна частуе тытунём і расказвае крывадушліва аб тым, якая ў яго была дасканалая гасціна ўчора:

*— Чаму ж не трапіў, сват, учора?*
*Якраз папаў бы на свініну:*
*Мы мелі добрую свяжыну —*
*Кабан, не многа і не мала,*
*Пудоў дзесятак мяса, сала...*
*Ну, што ж, сваяк, яшчэ закурым?*
*Хоць дымам галаву задурым.*

У канцы Кандрат запрашае ў госці Міканора з жонкай Тадоркай. Міканор, раззлаваны скупасцю гаспадара, шыпіць, што Тадорцы хапае свайго тытуню.

Несумненна, верш „Махорка“ належыць да найбольш удачных гумарыстычных твораў Паўловіча.

# ТРЫБУНА чытачоў

## З пісьмом на чацверты паверх

Штогод у Гайнаўцы будуюцца новыя блокі. Высокія — чатырохпавярховыя. Людзі задаволены. Наракаюць на новыя кватэры толькі пісьманосцы. Падумаць жа, па некалькі дзесяткаў разоў узабрацца трэба на чацверты паверх!

Усё гэта можна наладзіць, мантуючы на партэры скрынкі, у якія пісьманосец укідае пісьмы. Скрынкі такія „Гермес“ павінна даставіць дырэкцыя пошты у Ольштыне. І павінна гэта зрабіць як найхутчэй. Колькі ж бегаць па паверхах гайнаўскім пісьманосцам?

**Вірскі**

## Нашы клопаты

Нарэшце вёска Зубава, што ў Бельскай гміне, дачакалася аўтобуса ў Бельск. Ідзе ён два разы ў дзень у Кожына і паварочвае праз Зубава ў Бельск.

Я ўжо раз пісала, што гэты аўтобус ходзіць як хоча, а не так, як кажа план. Чула многа скаргаў на шафёра, але нічога гэта не памагае.

Другая справа, што прыгадзіўся б нейкі, хоць маленькі, дах над галавой на аўтобусным прыпынку ў Зубаве. Ці дождж ці снег зімой, а ты стой пад голым небам. Можа хто разумнейшы падкажа, як зрабіць тут, каб падарожным было лепш?

* ✲ *

Сяляне нашай вёскі ўжо сабралі ўсё з поля. Цяпер прыйшла чарга малаціць новы ўраджай. Машыны знайшліся б, але бяда, што няма нідзе ў гаспадарчых магазінах мазі для паясоў у машыне. Сяляне ўсюды дапытваюцца, нават у Бельску яе няма. Вазьмі і памалаці! Хто паможа сялянам у такой дробнай справе?

**Джэны А.**

## „Касмічная“ хуткасць

Мой добры знаёмы, пенсіянер, атрымаў запрашэнне прыняць удзел у спатканні ў сувязі з Днямі сеньёра.

У запрашэнні было напісана „чорным на белым“, што спатканне адбудзецца 30 кастрычніка а дзесятай гадзіне раніцы ў канферэнцыйнай зале гарадской рады ў Бельску.

І хаця мой знаёмы жыве недалёка (дзесяць мінут хадзьбы), на гэтае спатканне не пайшоў. Думаеце, жонка не пусціла? Не, яна не супраць такіх сустрэч. Віна ў гэтым нашай пошты. На канверце была дата 27 кастрычніка, а пісьмо пісьманосец даручыў 30.X. а 13 гадзіне.

Вынікае з гэтага, што з бельскай пошты на недалёкую вуліцу Пушкіна пісьмо ішло роўна чатыры дні. Цікава, колькі дзён ідуць пісьмы з Бельска ў іншыя гарады?

**В. С.**

---

жаласным іржаннем коней. З першых залпаў было забіта шмат гітлераўцаў, уцалелыя кінуліся ўцякаць, некаторыя залеглі за трупы коней і пачалі адстрэльвацца. „Там іх шэф“, — вырашыў Арлоўскі і, хаваючыся за кустамі, прыгнуўшыся, пабег у той бок, дзе залеглі фашысты. Туды ж пабеглі Івашкевіч, Васіль Халецкі, Хуста Лопес, іншыя байцы. Арлоўскі кінуў адну шашку, узяўся за другую... І ў гэты час моцны выбух паваліў яго ў снег. Да яго кінуліся Івашкевіч, Хуста Лопес. Камандзір ляжаў пад высокай бухлатай елкай. З абедзвюх яго рук цякла кроў, каля іх, наліваючыся крывёю, чырванеў снег. У крыві былі твар камандзіра, лахманы кажуха.

— Працягвай аперацыю! Дабівай фашыстаў, Грыша! — аддаў ён загад камісару.

— Хуста, ратуй камандзіра, вынось яго з поля бою! — у сваю чаргу распарадзіўся Рыгор Івашкевіч.

Хуста Лопес перахапіў жгутом абедзве рукі камандзіра, зняў з сябе кажушок, паклаў на яго Арлоўскага і паўзком пацягнуў у глыбіню лесу, далей ад месца бою. Грымелі стрэлы, ціўкалі кулі, але Хуста Лопес не заўважаў гэтага. Ён не думаў пра сябе, яго думкі былі пра тое, каб выратаваць камандзіра.

(Працяг будзе)

## Восенню ў Белавежы

У канцы кастрычніка закончылася асенняя фаза XII Белавежскага жывапіснага пленеру. 15 мастакоў за месяц намалявала каля 60 карцін. Сёлета апрача польскіх, удзельнічалі ў белавежскім пленеры мастакі з Чэхаславакіі, ГДР, Венгрыі і Швецыі.

Асеннія працы мастакі паказалі на выстаўцы, арганізаванай у памяшканні Прыродазнаўчага музея БНП у Белавежы. Паказана на ёй 40 палоцен. Аб некаторых варта сказаць некалькі слоў, ды не толькі цёплых, але і горкіх.

Мне асабіста спадабаліся найбольш тры працы Т. Казакевіча. Мастак прадставіў на іх арыгінальныя катастрафічныя здані. Разліваючыеся (менавіта так!) дрэвы, муры, намаляваныя спляценнямі колераў (ідэальна падабранымі) пакідаюць на гледачу незабыўныя ўражанні. Сіла выразу змяшчаецца ў гэтых палотнах галоўна ў блакітным фоне, што ўжо само па сабе даволі арыгінальнае.

Ю. Зялінскі папаў у абсесію губ. Губы — галоўны матыў амаль усіх яго палоцен. Мысленнага зместу ў іх вельмі мала, а і тое вельмі наіўна абвешчана. Вось, напрыклад, карціна „Дарога ў рай“ прадстаўляе адкрытыя губы, з якіх вызіраюць галовы трох зялёных змеяў. „Закон пушчы“ жа выказаны пры дапамозе адкрытых губ, а ў іх чатырох іклаў на фоне контураў зялёных дрэў. Птахі ў палёце (зразумела, на фоне губ) абазначаюць „Дыяпазон трывогі“. Аб іншых варыянтах губ не ўспамінаю, бо і навошта?

З. Вашчэнюк таксама пушчай не зачараваўся. Маляваў сярдзітых сабак. Адзін нават адкусіў бераг карціны і трымае яго ў зубах. Думка можа і арыгінальная, ды што з таго?..

Кідаецца ў вочы на выстаўцы карціна С. Рыбі з экспрэсійнай, крыху дэфармаванай (што надае трохі прывіднасці) постаццю старога. Наведвальнікі назвалі гэтую карціну „Духам пушчы“. Цікава распрацаваў мастак фон. Унізе чырвань, пасярэдзіне чарната і ў гары зелень, якая пераходзіць у змешаныя штрыхі розных колераў. Не адарваць вачэй! Можа таксама падабацца палатно з голай жанчынай, запальваючай свечкі.

А. Вэльс адкрыў у Белавежы новыя закавулкі. Найлепш удаўся мастаку пейзаж з барам „Вэймутка“ над сажалкамі. Крыху прытушаныя колеры цудоўна перадаюць настрой перадвячэрняга змроку. Адобрыць можна таксама пейзаж з дрэвамі над ставам, ды трэці — з лугам, ракой і лесам у перспектыве — надта перасалоджаны. Увогуле, А. Вэльс мае тэндэнцыю да перасалоджвання сваіх пейзажаў і гэта бадай адзіная загана яго мастацтва. Таму раю мастаку — ужывайце больш цямнейшай фарбы!

Перасаладзіў сваю карціну са старымі дубамі і В. Руткоўскі. А шкада, бо былі ўсе падставы, каб паўстаў захапляючы пейзаж.

Д. Цыберта зачаравала белавежская ідылія. Мастак стварыў цікавы пейзаж з каровамі, які эмануе цеплынёй, спакоем. Іншая яго карціна прадстаўляе седзячага перад кузняй каваля, сівенькага дзядулю Клімца. Захапляе ў ім ідэальная каларытная распрацоўка.

М. Валкавыцкі паставіў на выклікание настрою. І гэта яму ўдалося. Дзікі закавулак і стагі сена пад лесам адзначаюцца добрым падборам колераў, ды ўвогуле добрым тэхнічным вырашэннем.

Наведвальнікам найбольш спадабаліся пейзажы.

**П. Байко**

## Цяжка даехаць „босым“ канём

Ужо пісалася на старонках „Нівы“, што цэлае лета шаша Гайнаўка-Кляшчэлі была ў рамонце. А калі будзе яму канец?

Цяпер някованым канём і не збірайся ехаць па гэтай дарозе, бо шаша пракладжана тлучнем (дробныя калючыя колатыя каменні), па якому праехаў цяжкі валец, удушыў зямлю, аднак „босы“ конь далёка не заедзе. А да зімы не запланавалі палажыць асфальт. Ажно ў наступным годзе гэта зробяць.

**М. Панфілюк**

ЧЫТАЙЦЕ І РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ „НІВУ“!

## Людзі фабрыкі

Аб людзях добрай работы ахвотна піша кожны. І яшчэ з большай прыемнасцю чытае. Сёння хачу прадставіць вам фабрыку, якая ў кароткім часе стала вядомай далёка дзякуючы высокай якасці працы. Гэта керамічная фабрыка ў Старым Ляўкове.

Аляксандр Бандарук з'яўляецца кіраўніком інвестыцый. Яго людзі будуюць блокі для рабочых. Праводзяць рамонт на фабрыцы і рамонты машын. Таварыш Бандарук кіруе не малой брыгадай, у якой многа добрых спецыялістаў, як Мікалай Пташынскі, Мікалай Матвеюк, Ян Саевіч, Аляксандр Харкевіч, Аляксандр Максімюк.

Пётр Карпюк з'яўляецца кіраўніком механічнага варштату. Яго брыгада праводзіць рамонты. Давялося назіраць, як яго брыгада ліквідавала аварыю. Хутка і спраўна. Кожнаму хацелася, каб прадукцыя пайшла чым хутчэй. Рабочыя брыгады рашылі не дапусціць да прастою прадукцыі і справіліся на пяцёрку. Перадавыя: Касёрэк Ян, Міраповіч Анатоль, Касценчук Ян.

Кіраўнік прадукцыі Юрка Равінскі кіруе вялікай групай людзей, дзе працуюць і жанчыны. Тут найлепшыя: Сухадола Мікалай, Харкевіч Мікалай, Казлоўскі Алек, Бандарук Марыя, Бандарук Ніна, Харашэўская Ніна, Каліноўская Валя, Бачынская Люба, Прычыніч Віталіс, Максімюк Аляксей, Марчук Ян.

Пра людзей добрай работы многа давялося пачуць на фабрыцы. Вакол фабрыкі зніклі непраезныя дарогі і сцежкі. Пралoжаны цвёрдыя дарогі, тратуары, пасаджана многа кветак. Усюды засеяна трава. Усё гэта зрабілі рабочыя супольна з новым дырэктарам.

Па ініцыятыве дырэктара ляўкоўскай фабрыкі Кастуся Майсені, ПОП і прафсаюзнай рады адрамантавана памяшканне на сталовую для рабочых. Абеды давозяцца з ГС-у ў Нараўцы, да якога аднак рабочыя маюць многа крыўды. Фабрычны буфет працуе ад 8 да 16 гадзіны. А чаму не да 19, пытаюцца рабочыя, якія працуюць на другой змене.

Свайго часу на фабрыцы быў ГС-аўскі кіёск № 24, які ў жніўні ГС перавёў у рабочую сталовую. Пагоршылася, бо ГС увёў маржу. Кіраўніцтва ГС павінна разгледзець справу сталовай на фабрыцы ў Ляўкове і зрабіць усё згодна з воляй рабочых. (вб)

## Гданьская сустрэча

У кастрычніку савецкі консул Іван Дзядзюля сустрэўся з актывам гуртка БГКТ у Гданьску.

Іван Прохаравіч — беларус, адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Мінскай вобласці, камісар, а пазней камандзір брыгады „Смерць фашызму“, аўтар некалькіх кніг, між іншым, „Лясная гвардыя“, „Партызанскі фронт“.

У час сустрэчы тав. Дзядзюля падзяліўся ўспамінамі з часоў вайны, расказаў аб сваёй літаратурнай працы, а таксама адказваў на пытанні аб сучасным міжнародным становішчы.

**Эдуард Шафаловіч**

## Леніна тады і сёння

На экранах нашых кінатэатраў паявіўся новы кароткаметражны фільм кінастудыі „Беларусьфільм“ — „Было гэта пад Леніна“. Рэалізавалі яго ў творчым калектыве „Летапіс“ П. Аліферэнка, В. Арлоў, В. Цеслюк, А. Шэпенеў і інш.

Фільм паказвае сустрэчу (з нагоды 30-ай гадавіны) удзельнікаў бою пад Леніна. Здарэнні тадышніх дзён успамінаюць і палякі, і рускія. Успаміны ўзбагачаюць архіўныя здымкі з фарміравання польскіх атрадаў у Сельцах над Акой, ваеннай прысягі і ходу барацьбы.

Фільм дэманструецца 20 мінут. Ён рэалізаваны на чорна-белай кінастужцы.

**П. Байко**




**Янка Здаnoўскі, Варшава.** Згодны мы з вамі адносна вартасці апавяданняў Буніна. Аднак месца, месца... Ці ўяўляеце, як выглядала б „Ніва“, калі б мы пачалі змяшчаць рэцэнзіі на ўсе вартыя ўвагі кнігі?

## Будуюцца

Дзіцячыя яслі ў Бельску ўжо даўно былі патрэбны. А год 1976 з'яўляецца пераломным у гэтай справе. У гэтым годзе пачалася будова ясляў на вул. Дзяржынскага. Праўда, да канца яшчэ далёка, але вядома, што яслі будуць.

Інвестарам пабудовы стаў беластоцкі ОММ. Будынак ужо стаіць. Пачаліся працы ў афармленні сярэдзіны. Панадворак выглядае пакуль што, як пасля землетрасення. Але на наступны год яслі ў Бельску павінны быць ужо пабудаваны.

**Мікалай Няплоха**

### РАМЕСНАЯ КРАМА Ў ГАЙНАЎЦЫ

У Гайнаўцы на вул. Мар'яна Бучка цэх align рознага рамяства адкрыў першую сваю краму, якую назвалі „Базарам рамяства“.

Чаго ў ім няма! Розныя рэчы, выкананыя гайнаўскімі рамеснікамі. А як па-мастацку зроблены яны! Добра зрабіла кіраўніцтва цэху, адкрываючы такую краму. З карысцю гэта і для мясцовых людзей і для турыстаў.

## Бельская спартсменка

Міраслава Анджэйчук з'яўляецца вучаніцай чацвертага (і апошняга) класа Тэхнікума сельскагаспадарчага рахунказодства ў Бельску. Ад пачатку сваёй навукі ў тэхнікуме яна займалася спортам, асабліва лёгкай атлетыкай.

Вынікі вучаніцы ў спорце ведаюць не толькі на Бельшчыне, але і ў іншых ваяводствах, а таксама і за мяжой. У час канікул і ў месяцы верасні гэтага года вучаніца заваявала ачкі для Беласточчыны ў сустрэчы Беластока і Гродна (першае месца ў бегу на 3 тысячы метраў) і Беластока і Коўна (пятае месца — на 1500 м).

У сустрэчы сельскагаспадарчых школ Беласточчыны, Альштынскага і Сувальскага ваяводстваў у Белай Піскай заняла другое месца ў бегу на 1500 м, а на сустрэчы ваяводскай лёгкаатлетычнай лігі ў Гайнаўцы заняла першае месца на 800 м. У чэмпіянаце беластоцкай акругі яна заваявала першае месца на 3 тысячы м.

Трэнерам спартсменкі з'яўляецца настаўнік фізкультуры Станіслаў Коц.

**Мікалай Няплоха**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі: „ЛЮДЗІ ЧАКАЮЦЬ“, „Ніва“ № 32(1067) ад 8 жніўня 1976 г.**

**Адказвае:**

**ZESPÓŁ OPIEKI ZDROWOTNEJ W SOKÓŁCE.**

W związku z notatką zamieszczoną w tygodniku „Niwa”, odnośnie opieszałego wykonywania prac przy budowie Gminnego Ośrodka Zdrowia w Szudziałowie wyjaśniamy:

— budowa prowadzona jest systemem gospodarczym i nie posiadamy na nią żadnego zabezpieczenia materiałowego jak cement, wapno, cegły, armatura wodkanowska.

Na większość materiałów otrzymaliśmy odpowiedzi odmowne z hurtowni względnie dostawy były realizowane częściowo. W tej sytuacji materiały musieliśmy kupować w GS-ach, gdzie też w roku 1976 były braki. Wpłynęło to na opóźnienie robót.

— Jednocześnie podajemy, że w związku z likwidacją Sokólskich Zakładów Przemysłu Terenowego w Sokółce, z którym mieliśmy umowę na wykonanie centralnego ogrzewania i wodkanu, (prace były rozpoczęte) straciliśmy wykonawcę na powyższe prace. Jednostka, która przejęła działalność zlikwidowanych Zakładów tj. Wojewódzka Usługowa Spółdzielnia Pracy w Białymstoku, oddział w Sokółce, odmówiła wykonania powyższych prac, ponieważ świadczy tylko usługi dla ludności. Powyższa sprawa na różnych szczeblach załatwiana była przez 2 miesiące bez rezultatu.

Dopiero obecnie na interwencję osobistą vice-wojewody w Białymstoku, Wojewódzka Usługowa Spółdzielnia Pracy w Białymstoku podpisała umowę na wykonanie powyższych prac w roku bieżącym. Prace rozpoczęte zostaną z dniem 2 listopada 1976 r.

Informuję, że mamy nadal poważne trudności materiałowe szczególnie wodkanowskie, oraz nie jesteśmy w stanie zakupić 3 kuchni gazowych do mieszkań (mieszkania w ośrodku bez trzonów kuchennych) ze względu na negatywne załatwienie wniosku, złożonego do Urzędu Wojewódzkiego w Białymstoku w powyższej sprawie.

Jednocześnie informujemy iż dołożymy starań aby Ośrodek Zdrowia w Szudziałowie był oddany do użytku w roku 1976.

**Za Dyrektora
Zespołu Opieki Zdrowotnej
d/s Ekonomicznych
Michał Szebiotka**

**„Niwa” — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.**

# УРОК СЯБРА

Іван Іванавіч Каласок падаў мне тэлевізійную праграму: маўляў, чытай.

— А што менавіта? — запытаў я.

— Як што? — здзівіўся Іван Іванавіч. — Сёння на нашым стадыёне сустракаюцца дзве знакамітыя каманды: „Агонь і полымя" — сталявараў і „Колас" Зарэчанскага раёна. Давай бліжэй да тэлевізара... Ну, братка, будзе зараз хваляванняў, загудуць бальельшчыкі!

Тут я і прызнаўся:

— Вось і я ж такі неўтаймаваны — не магу раўнадушна глядзець, калі шайбу ўпустую ганяюць. Такое часам слоўца з вуснаў заляціць, што жонка за качаргу хапаецца.

— Усё ад нявыхаванасці тваёй, даражэнькі. Вытрымку трэба мець. Эмоцыі не паказваць. Хочаш, навучу, як паводзіць сябе на стадыёне. Вось зірні, які я спакойны... Хварэю за каманду „Колас"... Ідзе першы тайм. Адзінаццатая хвіліна. Лік 0:0.

— Шайбу забівае Ткачэнка з „Агня і полымя"!.. Ура-а! — закрычаў я.

— Зусім нетактоўна, — зрабіў заўвагу Іван Іванавіч. — Трэба моўчкі, у душы на ўсё рэагаваць, а ты... хоць вушы затыкай. Не-е, такога балельшчыка нельга пускаць на стадыён.

— А, пустое! Зірні, зірні, як адступаюць каласаўцы, — не звяртаў я ўвагі на гаспадара. — Давай, давай, шуруй, хлопцы! Яшчэ шайбу! О-о-о...

— Ну, што, дзе твая шайба? Трасцы! Не такія каласаўцы, каб паддацца. Крычы, не крычы... Вунь, пайшлі ўжо у наступ... Ур-ра-а! Ёсць! Шайба!...

У мяне аж у вушах заклала ад громападобнага голасу Івана Іванавіча. Не паспеў я апамятацца, як ён раптам схапіў мяне за каўнер кашулі, і я адчуў, як пасыпаліся на падлогу гузікі...

Вось табе і урок сябра!

**В. Промнеў**

—*Калі не зможаце выцягнуць, пацягніце за гэту ручку...*

# НІЎКА

— — —

## А Я — АДЗІН

*Калі ад страху зойме дух,*
*Кажы сабе, мой сыне:*
*„А мы — удвух! А мы — удвух!" —*
*І страх цябе пакіне.*
*Васіль на ўсё жыццё сваё*
*Запомніў словы маці...*
*Раз у суседняе сяло*
*Пайшоў ён гасцяваці.*
*Бабуля добрая была,*
*Так доўга частавала,*
*Што на ускраіне сяла*
*Унука ноч застала.*
*Палі, лугі і рэчкі сінь*
*Сабою агулілі.*
*Дрыжыць Васіль, бяжыць Васіль,*
*Бяжыць, што мае сілы.*
*Паблізу філін „вух!" ды „вух!" —*
*Страх хлопцу ногі вяжа.*
*„А мы — удвух! А мы — удвух!" —*
*Для смеласці ён кажа.*
*У кустах, дзе воўк авечку сцёг,*
*Чупрына ўзнялася:*
*„Мы — ўдзесяцёх! Мы —*
*ўдзесяцёх!" —*
*Крычыць са страху Вася.*
*Затым дзесяты адышоў,*
*Дзевяты, восьмы, сёмы...*
*Калі ж да вёскі падышоў,*
*Пайшоў Васіль вясёлы.*
*Астатніх тут жа „адпусціў"*
*З пагардаю да звера.*
*„А я — адзін! А я — адзін!" —*
*Сказаў, закрыўшы дзверы.*

**Мікола Янчанка**

### ЛОГІКА

Вучэнне — святло, а невучэнне — цемра.

Вывад: невучэнне заўсёды эканоміць электраэнергію.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Аднойчы Бу Адам сунуў у стрэмя правую нагу і сеў на асла задам наперад.

— Чаму ты сеў задам наперад? — запыталіся ў яго.

— Гэта не я сеў задам наперад, а мой асёл гэтак стаіць.

* ✲ *

Бу Адам быў п'яны і не меў сілы скранууцца з месца, стаяў пасярод вуліцы.

— Ты чаго тут стаіш? — запыталіся стражнікі.

— Зямля ж круціцца, і я чакаю, калі да мяне наблізіцца мой дом, — адказаў ён.

* ✲ *

Аднойчы Бу Адам бег, распяваючы песні.

— Чаго ты бяжыш? — запыталіся ў яго.

— Мне сказалі, — адказаў Бу Адам, — што мой голас прыгожы здалёку. Вось я і бягу, каб пачуць яго.

*(Бу Адам — герой турэцкіх народных гумарэсак).*

**...Калі ён думаў аб сабе, дык думаў глабальна.**

## ГУМАР З

### ЯК СЫН КАСУ ХАВАЎ

Аднойчы бацька з сынам касілі жыта. Пад вечар, калі ўжо трэба было вяртацца дамоў, бацька кажа сыну:

— Бяжы ды пасярод нівы схавай касу, каб не вазіцца з ёю.

Сын узяў касу ды й пабег. Бяжыць ды й крычыць на ўсё поле:

— Тату! Тату! Тут касу класці?

А бацька ні слова, толькі махае рукамі, паказвае, маўляў, кладзі там, чортаў сын... Чаго крычыш, бачыш, людзі глядзяць.

Палажыў сын касу ды й вярнуўся. Бацька як урэжа сына кнутам:

— А як хаваюць што-небудзь, то хіба крычаць?

На другі дзень бацька з сынам зноў паехалі на поле. Бацька кажа сыну:

— Бяжы ды вазьмі тую касу, што ўчора схаваў сярод нівы.

Пабег сын. Шукаў, шукаў, перабег ніву ўздоўж і ўпоперак, а касы няма. А бацька крычыць:

— Што ты там так доўга калупаешся? Нясі хутчэй касу!

Прыбег сын ды й шэпча бацьку на вуха:

— Тату! Тату! Касы няма — укралі! Я яшчэ сярод нівы хацеў крычаць, ды баяўся, што як голасна скажу, дык зноў будзеце біць.

— — —

*Так, мая жонка займаецца гімнастыкай, а чаму вы мяне аб гэтым пытаеце?*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Анкі, Надзі і Якуба Нікіцюкоў са Ступнік, Веська Маргынюка і Лявона Апалінскага з Паўлаў, Галены Федарук з Зубава, Марылі Гладскай з Кляшчэляў і Леаніды Краўчук са Стрыкоў змяшчаем песню*

## Za każdy uśmiech

**Słowa: Lech Konopiński**
**muzyka: Jarosław Kukulski**
**śpiewa Anna Jantar**

Świat ma tyle barw:
są tuż obok mnie!
Weź ten piękny dar
i przez życie nieś!
A wtedy:
Za każdy uśmiech twój
stubarwny lata strój
znów ci dam!
Za wszystko to, co wiem
Błękitnej nocy cień
zabierz sam!
Za kilka miłych słów
sto kwiatów z mego snu
dam ci też!
Za każdą radość dnia
mój kolorowy świat
weź!
Przyjdź jak wczesny świt,
przyjdź od kwietnych łąk
i wśród szarych dni
zapal słońca krąg!
A wtedy:
Za każdy uśmiech twój... itd.

### КАСТУСЬ

— Калі б ты мог пачаць жыццё спачатку, што б ты рабіў?

— Я рабіў бы тыя ж памылкі, ды толькі пачаў бы раней.

### НАБОР

— Учора ў нас абедаў мой сябра і ежа маёй жонкі зрабіла на яго такое ўражанне, што сёння раніцай ён прыслаў ёй набор інструментаў для кухні.

— Як міла з яго боку!

— Не вельмі. Ён прыслаў пілку і малаток.

### МІКОЛКА

— Мама, ты казала, што ў яблыках шмат вітамінаў. Я іх парэзаў, а вітамінаў не знайшоў.

## Курёзы

### „УСЁ ПАТРАЧУ САМ"

Спачатку гэта вестка ўзрушыла ўвесь арыстакратычны Лондан. Самыя радавітыя сем'і змагаліся чатыры гады за пяць мільёнаў фунтаў стэрлінгаў — спадчына нябожчыка графа Сафтана, беспаспяхова спрабуючы даказаць сваяцкую блізкасць з ім. Цяпер жа стала відавочным, што сума дастанецца... сантэхніку Бобу Бароу, які даказаў, што яго прадзед — незаконнанароджаны сын прапрадзеда графа. Прамых наследнікаў няма і ў Бароу. „Ды я нікому не збіраюся пакідаць грошы, — гаворыць 70-гадовы сантэхнік. — Я ўсё патрачу сам".

### ПОМНІК... ШПІЁНЦЫ

У галандскім горадзе Лаувардэне адкрыты помнік Мата Хары — вядомай нямецкай шпіёнцы часоў першай сусветнай вайны. Тут яна нарадзілася і вырасла. Яе сапраўднае імя — Маргарэта Гертруда Зеле. На думку агенцтва ЮПІ, помнік абышоўся гораду прынамсі сем тысяч долараў. Але зусім не павага да авантурыстскі прымусіла гарадскія ўлады пайсці на такія расходы. Помнік — выдатная прынада для турыстаў. У апошні час іх прыток у Лаувардэн значна ўзрос. Акрамя помніка, гідны паказваюць цікаўным і невялікі магазінчык галаўных убораў, які належаў некалі бацьку Зеле. У мясцовым бары можна пакаштаваць кактэйль „Слёзы Мата Хары".

Міжэ намі

**Паколькі дурням закон не пісаны, ім трэба чытаць хоць бы інструкцыі.**